# ПЛАТНАЯ ПАРКОЎКА Ў СТАЛІЦЫ: НЕАБХОДНА НОВАЯ СІСТЭМА

**Участак** па эксплуатацыі кароткачасовых паркова́к трэста «Гордармеханізацыя», які на падставе рашэння гарсавета быў створаны для арганізацыі і абслугоўвання платных стаянак у сталіцы, а таксама спагнання збору за карыстанне месцамі паркоўкі аўтатранспарту, пачаў сваю дзейнасць з мая 1997 года. Такім чынам, ёсць усе падставы для пэўных ацэнак. Зрэшты, у тым, што справа гэта сапраўды патрэбная, сумнявацца як быццам не выпадае — гарадскому бюджэту патрэбны сродкі. На жаль, пакуль сумненні ўзнікаюць наконт іншага — наколькі эфектыўна збіраюцца гэтыя сродкі.

Варта нагадаць, што дзейнасць участка па эксплуатацыі кароткачасовых паркова́к фінансуецца за кошт сум сабранага ім збору за паркоўку ў адпаведнасці з зацверджаным Мінгарвыканкамам каштарысам. Пры гэтым зыходзяць з таго, што паступленні ў бюджэт павінны быць не меншымі выдаткаў, адлюстраваных у каштарысе, г. зн. участак мусіць акупіць выдаткі на сваё ўтрыманне і такую ж суму пералічыць у бюджэт. У выніку на 1998 год выдаткі на ўтрыманне ўчастка (спецадзенне, гаспадарчы інвентар і г. д.) па каштарысу вызначаны ў памеры 7 млрд. рублёў, адпаведна, агульная сума збору за паркоўку — 14 млрд. рублёў.

Раскладка, здавалася б, нескладаная. Шкада толькі, што сама сістэма далёка не бясспрэчная. Так, кідаецца ў вочы, што пры ўстанаўленні планавых заданняў участку па эксплуатацыі кароткачасовых паркова́к па спагнанню збору за паркоўку не ўлічваецца прапускная здольнасць дзеючых стаянак, якую можна вызначыць або шляхам разлікаў, або з выкарыстаннем метаду хранаметражу. Цяжка знайсці аналагі падобнага падыходу да планавання, аб якой бы сферы дзейнасці ні вялася гаворка.

Колькасць працуючых на ўчастку разлічвалася ў адпаведнасці з нарматывамі, зацверджанымі Мінгарвыканкамам. Пры распрацоўцы нарматыва колькасці зыходзілі з мінімальнай інтэнсіўнасці паркоўкі аўтатранспарту — 3 аўтамабілі ў гадзіну на 10 машына-месцаў. Аднак паспрабуем падлічыць. На тэрыторыі горада Мінска ў першым квартале гэтага года працавала 15 платных паркова́к на 2600 машына-месцаў. Калі ўзяць пад увагу, што паркоўкі горада працуюць у сярэднім 26 дзён у месяц, працягласць працоўнага дня — 8 гадзін, кошт паркоўкі за 1 гадзіну — 19 тыс. рублёў, то месячны аб'ём збору за паркоўку павінен скласці 3 082 560 тыс. рублёў. Квартальны план участка, адпаведна, мусіць быць вызначаны ў памеры 9 247 680 тыс. рублёў. Разам з тым планам I квартала 1998 года прадугледжана забяспечыць суму збору за паркоўку ў 2,8 млрд. рублёў, фактычна ж сабрана і таго менш — 2,6 млрд. (або 93 прац. ад плана).

Зыходзячы з прыведзеных даных узнікае пытанне аб прычынах такога істотнага разыходжання паміж разлічанай велічынёй і фактычным паступленнем збору за паркоўку. На наш погляд, гэта неадпаведнасць хутчэй за ўсё тлумачыцца дзвюма прычынамі: парушэннем падатковай дысцыпліны з боку асобных плацельшчыкаў і парушэннем парадку работы з наяўнымі грашовымі сродкамі, якія выкліканы адсутнасцю эфектыўнай сістэмы арганізацыі працы паркоўшчыкаў.

Пры вызначэнні збору за паркоўку, які належыць выплаце за карыстанне стаянкай, работнікі ўчастка карысталіся зацверджанымі Мінгарвыканкамам памерамі пагадзіннай аплаты і фактычным часам стаянкі. Прычым, пры выкарыстанні стаянкі менш 5 хвілін збор не спаганяецца, пры працягласці стаянкі 20 хвілін сума збору складае 9 тыс. рублёў, гадзінны памер збору — 19 тыс. рублёў.

Аплата за кароткачасовую стаянку робіцца наяўнымі грашыма шляхам набыцця разавага талона ў работніка ўчастка. Кантроль за работай паркоўшчыка і правільнасцю аплаты за паркоўку здзяйсняюць работнікі ўчастка (бухгалтары-кантралёры), колькасць якіх складае ўсяго 3 чалавекі, што, відавочна, недастаткова для забеспячэння эфектыўнага кантролю за выкананнем касавай дысцыпліны пры колькасці паркова́к — 15 і колькасці паркоўшчыкаў — 116 чалавек.

У цяперашні час сродкі, атрыманыя за карыстанне кароткачасовымі стаянкамі, у поўным аб'ёме паступаюць на рахунак трэста «Гордармеханізацыя», хаця пры арганізацыі дзейнасці ўчастка планаваўся іншы парадак размеркавання памянёных сродкаў: 85 прац. — трэсту «Гордармеханізацыя», 15 прац. — МУС Мінгарвыканкама.

Як паказала практыка, існуючы парадак размеркавання сабраных сродкаў не стымулюе работнікаў ДАІ аказваць дапамогу ў арганізацыі работы кароткачасовых паркова́к, а дзеючыя ў цяперашні час нарматыўныя дакументы не надзяляюць супрацоўнікаў участка дастатковымі паўнамоцтвамі для ўздзеяння на вадзіцеляў-неплацельшчыкаў. У арсенале такіх спосабаў уздзеяння ёсць хіба што метад перакanання і прымусовая (з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў) блакіроўка колаў аўтамабіля. Прычым пасля сканчэння працоўнага часу работнікі ўчастка вымушаны здымаць блакіратары, бо ў адваротным выпадку парушальнік у адсутнасці паркоўшчыка робіць гэта самастойна.

У выніку склалася сітуацыя, калі апроч 4 ільготных катэгорый плацельшчыкаў збору (аўтатранспарт міліцыі, хуткай дапамогі, пажарнай службы і інвалідаў) вызначылася яшчэ цэлая група неплацельшчыкаў, якая, па словах кіраўніцтва ўчастка, дасягае 2/3 ад агульнай колькасці аўтатранспарту, які паркуецца. Сярод іх, у прыватнасці, вадзіцелі прыватных таксі ў раёне аўта- і чыгуначнага вакзалаў, «валютчыкі», а таксама супрацоўнікі дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў і ўчасткаў, размешчаных побач з платнымі паркоўкамі.

Аналіз атрыманых паказчыкаў, вывучэнне пытанняў планавання і арганізацыі работы ўчастка дазваляе зрабіць выснову аб тым, што Мінгарвыканкамам і трэстам «Гордармеханізацыя», на наш погляд, удзяляецца недастатковая ўвага пытанням дзейнасці ўчастка па эксплуатацыі кароткачасовых паркова́к у горадзе Мінску.

Так, планаванне аб'ёмаў збору за паркоўку адбываецца па затратнаму прынцыпу без уліку прапускной здольнасці стаянак, у выніку чаго планавыя паказчыкі заніжаюцца, па нашых падліках, больш чым у тры разы.

Прымяняемая ў цяперашні час сістэма прэміравання работнікаў участка не стварае належных стымулаў для забеспячэння паступленняў у бюджэт збору за паркоўку ў большым аб'ёме, чым запланавана. Выкарыстанне наяўных грошай, адсутнасць строгага ўліку колькасці абслугоўваемых машын, нізкі памер легальна атрымліваемай заработнай платы работнікаў участка дазваляюць меркаваць аб наяўнасці магчымасці ўтойвання часткі сабраных грошай. Падставай для такога меркавання можа служыць і той факт, што ва ўмовах складанай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы зарплата ў памеры 1,5 млн. руб. наўрад ці здольная зацікавіць мужчын ва ўзросце ад 16 да 39 гадоў.

Адсутнасць у работнікаў участка дастатковых паўнамоцтваў для ўздзеяння на неплацельшчыкаў збору за паркоўку, нескаардынаванасць дзеянняў работнікаў участка і ДАІ стварае сітуацыю, калі значная частка патэнцыяльных плацельшчыкаў ухіляюцца ад платы збору за паркоўку ў мясцовы бюджэт.

Вышэйпералічаныя хібы ў планаванні і арганізацыі работы ўчастка прывялі да таго, што ў лютым гэтага года сума збору склала 740 млн. руб., ці 285 тыс. руб. на адно машына-месца (як гаварылася вышэй, магчымасці ўчастка складаюць больш за 3 млрд. руб. у месяц, ці ў 4 разы больш).

Улічваючы гэта, для забеспячэння паступленняў збору ў больш поўным аб'ёме неабходна, на наш погляд, комплексная перабудова дзейнасці ўчастка пры дапамозе ажыццяўлення наступных мерапрыемстваў:

*1. Вызначэнне ўчастку плана паступленняў збору за паркоўку ў мясцовы бюджэт не на аснове велічыні выдаткаў па каштарысу, а зыходзячы з фактычнай прапускной здольнасці абслугоўваемых стаянак.*

*2. Распрацоўка і ўкараненне сістэм прэміравання і аплаты працы, якія забяспечваюць узмацненне матывацыі работнікаў участка па павелічэнню паступленняў у бюджэт збору за паркоўку.*

*3. Распрацоўка і ўкараненне эфектыўных сістэм кантролю за колькасцю аўтатранспартных сродкаў і фактычным часам іх знаходжання на кароткачасовых стаянках, па магчымасці абсталяванне стаянак агароджамі і прапускнымі прыстасаваннямі, якія дазваляюць уязджаць (выязджаць) на тэрыторыю стаянкі толькі пасля аплаты збору. Гэты прынцып павінен быць вызначальным і пры стварэнні новых стаянак на тэрыторыі горада.*

*4. Для забеспячэння роўнага і справядлівага падыходу да ўсіх катэгорый падаткаплацельшчыкаў, скарачэння выпадкаў неаплаты збору за паркоўку Мінгарвыканкаму неабходна прапрацаваць пытанне цеснага ўзаемадзеяння ў гэтым накірунку трэста «Гордармеханізацыя» і ДАІ па г. Мінску, прадугледзеўшы пры гэтым адлічэнне пэўнага працэнта ад збору на карысць Упраўлення дзяржаўтаінспекцыі ГУУС.*

*5. Перагледзець дзеючую сістэму разлікаў і, па магчымасці, скараціць работу персаналу стаянак з наяўнымі грашамі. Адным з варыянтаў скарачэння наяўных разлікаў з'яўляецца апрабаваная ўчасткам новая сістэма аплаты збору за паркоўку аўтатранспарту. Уласнікі аўтамабільных сродкаў могуць набыць у кіёсках «Белсаюздруку» і ў работнікаў участка, якія абслугоўваюць стаянкі, «праязны білет» коштам 750 тыс. руб., які дае права на працягу месяца бясплатна паркавацца на ўсіх платных стаянках, абслугоўваемых участкам. Магчыма трэба ўкараніць рэалізацыю разавых талонаў, пагашаемых на стаянцы.*

Наяўнасць добра абсталяваных стаянак і эфектыўных сістэм кантролю за аплатай збору, адыход ад работы з наяўнымі сродкамі дазволяць, па папярэдняй ацэнцы, павялічыць суму збору за паркоўку больш чым у 4 разы. Такое павелічэнне кампенсуе выдаткі на абсталяванне стаянак, павялічыць паступленні ў бюджэт горада і, такім чынам, будзе садзейнічаць павелічэнню аб'ёмаў сродкаў, накіроўваемых на яго добраўпарадкаванне.

**Прэс-служба Дзяржаўнага падатковага камітэта.**

*ПАШТОВАЕ АДДЗЯЛЕННЕ*

## ПАЕХАЛІ ГРОШЫКІ...

Гэта павучальная гісторыя, спадзяёмся, перасцеражэ некаторых асабліва даверлівых грамадзян ад неабдуманага ўчынку. Спадар Б. з Мядзельскага раёна вырашыў два гады назад купіць машыну. Сабраў крыху сам валюты, астатняе пазычыў, карацей, 1800 долараў «наскроб». За дапамогай звярнуўся да знаёмага, спадара А., які жыве ў Мядзелі, і сын якога падрадзіўся прыгнаць іншамарку з Літвы. Спадар Б. хацеў было ехаць з хлопцам сам, але яму ветліва адмовілі: сядзі, маўляў, на месцы і чакай, грошы, праўда, забралі ўсе і наперад.

Праз месяц у двары Б. ужо стаяла яго «мара» — дабітая «Аўдзі», 1980 года, іржавая, з дзіркамі. Да таго ж «гоншчык» запатрабаваў яшчэ 150 долараў, і машына не была растаможана. Падумаў-падумаў спадар Б. і рашыў, што лепей грошы ў руках, чым ржавая «тачка» ў двары. Аб чым і паведаміў А. Той машыну хуценька забраў, а вось грошы аддаць чамусьці забыўся...

Вось ужо два гады спадар Б. стараецца яму ўспомніць тыя 1800 долараў рознымі спосабамі. І ў райвыканкам звяртаўся, і ў пракуратуру. Нічога не дапамагло. Хацеў звярнуцца ў суд (дарэчы, пачуў ад суддзі, што ён трэці, хто збіраецца судзіцца з А.), але спалохала пошліна, якую трэба плаціць — амаль 10 мільёнаў... І тады ў роспачы напісаў спадар Б. у нашу газету. Мы зноў звярнуліся з лістом чытача ў Мядзельскую пракуратуру. Адказ прыйшоў усё той жа: «У сувязі з тым, што ў дзеяннях А. не выяўлена прыкмет саставу злачынства, РАУС абгрунтавана адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы». Праўда, было ў пісьме і нешта суцяшальнае: «Спадар Б., улічваючы яго матэрыяльнае становішча, можа быць вызвалены ад уплаты судовых расходаў». Адзінае, чым мы змаглі чытачу дапамагчы...

**Аддзел пісьмаў «Звязды».**

*КРЫМІНАЛ*

## За крадзеж — да адказнасці

**Пракуратурай г. Барысава санкцыянаваны арышт начальніка гарнізоннага склада паліва КЭЧ і загадчыка склада КЭЧ.**

Яны абвінавачваюцца ў тым, што 31 ліпеня гэтага года з тэрыторыі кватэрна-эксплуатацыйнай часткі, выкарыстоўваючы службовае становішча, спрабавалі выкрасці больш як 4 тоны мазуту.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

## Заказное забойства

**Пракуратурай Мінскай вобласці завершана следства, і крымінальная справа накіравана ў суд у адносінах да жыхаркі Нясвіжскага раёна, а таксама рабочага ТАА «РІФ» і аднаго непрацуючага.**

Яны абвінавачваюцца ў тым, што, згодна з папярэдняй змовай, учынілі наўмыснае забойства С. Буко, папярэдне напаіўшы яго. Забойства ўчынілі па просьбе жанчыны, непаўналетняга сына якой па неасцярожнасці забіў у час уборачных работ С. Буко.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

## Помста жонкі

Пракуратурай Віцебскай вобласці накіравана ў суд крымінальная справа па абвінавачанню Л. Карнічэнка, жыхаркі Полацкага раёна, якая пасля ўжывання спіртных напояў са сваім мужам, а потым сваркі, падпаліла дом. У выніку апёкаў і атручэння чадным газам муж памёр.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

## «ХУНДАЙ» У БЕЛАРУСЬ НЕ СПЯШАЕЦЦА

**Гэтымі днямі некаторыя беларускія СМІ паведамілі аб пачатку вытворчасці легкавых аўтамабіляў маркі «Хундай» у свабоднай эканамічнай зоне «Брэст».**

Як паведаміў намеснік кіраўніка адміністрацыі СЭЗ «Брэст» Валерый Раінчык, прапанова паўднёва-карэйскай фірмы пакуль засталася толькі прапановай. Хаця папярэдне, сапраўды, планавалася пачаць вытворчасць аўтамабіляў «Хундай Саната» і «Хундай Галопер» у кастрычніку гэтага года. Валерый Аляксандравіч зазначыў, што сёння цяжка сказаць, калі будзе адноўлена гаворка па гэтаму пытанню. Дададзім, што перамовы аб вытворчасці джыпа «Галопер» з карэйцамі ўжо некалькі гадоў вядзе адно са сталічных прадпрыемстваў. Аднак пакуль таксама аб станоўчых выніках казаць не даводзіцца.

У СЭЗ «Брэст» тым часам працуе беларуска-германскае СП па рамонту і сервіснаму абслугоўванню легкавых аўтамабіляў. Аднак, па словах прадстаўніка адміністрацыі СЭЗ, прадпрыемства не можа пакуль разгарнуцца з-за некаторых нестыковак у заканадаўстве. «Белмайстар» здольны даць другое жыццё ў месяц каля 300 машынам, што былі ў карыстанні. Тым самым нашы аўтааматары пазбаўляюцца неабходнасці накіроўвацца па патрыманыя легкавушкі за мяжу.

## ...А «ФОРД» ПЛАНУЕ ПАШЫРАЦЦА

**Як вядома, учора адбылася сустрэча генеральнага дырэктара СП «Форд Юніян» Ніла Кэмпбела і прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі.**

Як паведамілі ў прэс-службе сумеснага прапрыемства, падчас сустрэчы будуць падведзены вынікі працы завода за год існавання (адкрыццё яго адбылося 30 ліпеня мінулага года), прадстаўленыя планы развіцця прадпрыемства на бліжэйшыя 3 гады. У прыватнасці, размова пойдзе аб пашырэнні магутнасцяў завода. На сённяшні дзень «Форд Юніян» здольны выпускаць 6 тысяч 300 аўтамабіляў у год. Прадстаўнік прэс-службы СП, а таксама фірмы-дылера «Лада ОМС» абверглі чуткі аб складанасцях у рэалізацыі прадукцыі «Форд».

**Матэрыялы рубрыкі падрыхтавала Жанна КАТЛЯРОВА.**

*БЕЛАРУСКІ АЎТАМАБІЛЬ: ЯКІМ ЁН БУДЗЕ?*



## «ІНВАЛІДКІ» УЖО НЕ ЗБІРАЮЦЬ

**Зборка аўтамабіляў з ручным кіраваннем, прызначаных для інвалідаў, пакуль спынена, паведаміў карэспандэнту газеты дырэктар 124-га аўтарамонтнага завода Міхаіл Журневіч.**

Нагадаем, што вытворчасць легкавушак «Таўрыя» была распачата гэтым прадпрыемствам у канцы 1995 года. Планавалася, што завод забяспечыць патрэбы інвалідаў рэспублікі, якія маюць права на бясплатны аўтамабіль. Складанасці з пастаўкай камплектуючых з Запарожжа прымушалі не аднойчы шукаць выйсце. Акрамя «Таўрый» была сабрана партыя «Жыгулёў», а таксама «Фіятаў» з ручным кіраваннем. Аднак сёння прадпрыемства не ў стане ўвогуле прапанаваць гэтай спецыфічнай прадукцыі. Міхаіл Журневіч патлумачыў становішча адсутнасцю неабходнай на закупку камплектуючых валюты. Так што чаканні многіх інвалідаў застаюцца марнымі. Гэта тым больш крыўдна, бо Запарожскі аўтазавод абвясціў пачатак рэалізацыі праграмы паступовага зніжэння цэн на легкавушку «Таўрыя». Згодна з праграмай, кошт машыны праз два гады павінен знізіцца на 1,5 тысячы долараў. Апошняя цана на беларускую «Таўрыю» была роўная 4 тысячам 200 долараў.

# КАХАННЕ — САЛОДКІ ГРЭХ

## Юбілейная гаворка з 85-гадовым кампазітарам Анатолем Багатыровым

**Сам Ігар Лучанок прымеркаваў нашу сустрэчу. Вылучыў свой кабінет у Саюзе кампазітараў. Выставіў каву. І прызначыў абодвум час.**

**І вось сядзіць перада мною патрыярх нацыянальнага мастацтва, адзін з заснавальнікаў сучаснай кампазітарскай школы на Беларусі, славуты кампазітар, педагог, грамадскі дзеяч, народны артыст, жывая легенда. Волат. БАГАТЫРОЎ!**

**Раяцца сотні пытанняў. Хочацца няспешна пагаварыць з Анатолем Васільевічам пра ўсё-ўсё. А ён, просты і ўсмешлівы, сам пачынае размову:**



— МЫ БЫЛІ Багацкі. Жылі ў вёсцы Кабішча, у Гарадоцкім павеце. У сям'і — васемнаццаць дзяцей. Калі дзялілі зямлю, меншым Багацькам нічога не дасталося, і мой дзед, з меншых, пайшоў у горад і стаў рабочым на скураным заводзе. Ажаніўся з Ульянай, дачкой рабочага. От і напісана ў энцыклапедыі, што я родам з Віцебска. А па-праўдзе — з вёскі. Усе мы — ад зямлі...

**— Як атрымалася, што Багацькі сталі Багатыровымі?**

— Раскажу. Два дзедавы браты сталі Георгіеўскімі кавалерамі за Шыпку і Плеўна. Вярнуліся ў вёску героямі. Хлопцы да ўрадніка, атрымліваць дакументы. Той выслухаў герояў вайны дый кажа: «Вы ж багатыры!..» А як выпісвалі дакументы, да слова «багатыр» дадалі канчатак «оў». Вось і перайначыўураднік Багацькаў у Багатыровых. Начальства ўсё можа...

*Анатоль Васільевіч дробненька смяецца, а з-пад акуляраў памаладому зіхацяць вочы. І я спяшаюся выкарыстаць яго добры настрой:*

**— Ці адчувае сябе кампазітар Багатыроў волатам-багатыром?**

— А як жа! Уявіце, я — Багацька. Не гучыць. Багатыроў — іншая справа!..

**— Калі адчулі, што вы сапраўдны Багатыроў?**

— У трыццаць сёмым годзе. Наш настаўнік, прафесар Залатароў даў усім заданне — напісаць музыку па творах Аляксандра Пушкіна. Мне перапала «Казка пра мядзведзіху». Доўга мучыўся, атрымалася натхнёная кантата, якая адразу загучала. Пайшла па ўсяму колішняму Савецкаму Саюзу, аж да Сахаліна. І цяпер яна выконваецца ва ўсіх харавых класах у музычных вучылішчах. Вось так!

**— З Багацькаў быў яшчэ хто-небудзь музыкантам?**

— Сярод тых, каго ведаю, не было. Дзед быў рабочым, па ім пайшлі ўсе. А што? Атрымліваў у месяц сто рублёў. Вялікія грошы. Хапала, каб утрымліваць 10 дзяцей. Для чаго Ленін рабіў рэвалюцыю? Была мода пакланяцца яму. Цяпер не пакланяюся. Зачараваны толькі Сталіным. Вялікі чалавек!

**— Што найбольш цэніць Багатыроў са зробленага ў музыцы?**

— Цяжка сказаць. Пра «Мядзведзіху...» я ўжо казаў. Люблю свае оперы. Асабліва — «У пушчах Палесся». Яе слухаў сам Сталін. Я з жонкай былі выкліканы да яго ў ложу.

**— І якая атрымалася размова?**

— Дзе гадзіны гаварылі. У прысутнасці ўсіх членаў палітбюро. Гаварылі пра музыку, артыстаў. Ва ўсім разбіраўся Сталін. Сказаў мне: «Вы, таварыш Багатыроў, правільную музыку пішаце». А на банкеце пасадзіў побач з сабой. Сам піў віно, курыў і нічога не еў.

**— І што ўклаў правадыр у словы «правільная музыка»?**

— Не ведаю. Але пахваліў за меладызм. Ён быў музычны чалавек. Духоўную семінарыю закончыў. Мой бацька ў такой жа ўстанове вучыўся, пасля хорам у гімназіі кіраваў.

*Нагадаем чытачам, што опера Анатоля Багатырова «У пушчах Палесся» (лібрэта Янкі Рамановіча) пастаўлена па аповесці Якуба Коласа «Дрыгва» ў 1939 годзе. Яна лічыцца адной з першых нацыянальных опер. Праз два гады пасля пастаноўкі аўтар яе, кампазітар А. Багатыроў, атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР і стаў заслужаным артыстам БССР.*

**— А як Якуб Колас ацаніў оперу?**

— Добра. Яму падабалася музыка і лібрэта. Мы сябравалі з Коласам. Калі да яго завітвалі важныя госці, прыводзіў да мяне на абед. Помню гасцяванне Аляксандра Фадзеева, Сяргея Гарадзецкага і гэтак далей. З Рамановічам ездзілі да яго на дачу, узгаднялі асобныя сцэнкі па спектаклю. Сур'ёзных заўваг не мелі.

**— Які склаўся далейшы шлях оперы?**

— Неміровіч-Данчанка хацеў ставіць. Не паспеў. Пачалася вайна. Ён памёр у сорак трэцім. Я якраз прыехаў са Свярдлоўска ў Маскву. Трапіў на пахаванне. Кіеў цікавіўся операй, але да пастаноўкі справа не дайшла. Прычынай усяму зноў жа вайна. А пасля яе нахлынулі новыя клопаты.

**— Анатоль Васільевіч, у вас багата званняў, узнагарод. Што самае дарагое?**

— Самае высокае званне — быць Чалавекам. Гэта — галоўнае. Імкнуўся быць чэсным чалавекам. Ніколі не падхалімнічаў перад начальствам.

**— Начальству, часам, гэта не падабаецца.**

— Таму я і не народны артыст СССР. Да Машэрава не хадзіў на паклон. А ён вучыўся ў майго бацькі ў педінстытуце ў Віцебску.

**— І што ваш бацька яму ставіў па беларускай і рускай мовах?**

— Не вышэй чацвёркі. Бацька мой — прафесар старой школы. Вельмі строгі быў да вучняў. Ён нават сваёй дачцэ Людміле паставіў на экзамене «тройку». Пры ўсім класе сачыненне правяраў.

**— Раскажыце, Анатоль Васільевіч, як вы над песнямі працавалі?**

— Гэта вельмі складана, музычны жанр. Я ўвогуле — не песеннік, але сёе-тое атрымалася. Маёй песняй «Дзень добры, Масква» на словы Янкі Купалы адкрывалі. Другую дэкаду беларускага мастацтва ў Маскве.

**— Каго з беларускіх кампазітараў можна вылучыць у гэтым жанры?**

— Ігар Лучанок, Юрый Семяняка, Дзмітры Смольскі — мае вучні, дарэчы. Іншыя вучні таксама пішуць песні — Эдуард Зарыцкі, Генрых Вагнер, Леанід Захлеўны, Віктар Войцік, Андрэй Мдзівані, Уладзімір Солтан.

*Трэба зазначыць, што Анатоль Васільевіч нязменна, пяцьдзесят гадоў вядзе клас кампазіцыі ў Беларускай Акадэміі музыкі. Праз яго рукі, як кажуць, прайшлі амаль усе сучасныя кампазітары. Больш таго, маэстра А. Багатыроў адзінаццаць гадоў узначальваў Саюз кампазітараў, з пачатку яго заснавання ў 1938 годзе, тады, калі сённяшні старшыня творчага Саюза Ігар Лучанок толькі-толькі нарадзіўся. І ў сувязі з гэтым узнікае новае пытанне:*

**— Што можаце сказаць, Анатоль Васільевіч, пра свайго вучня Ігара Лучанка?**

— Пасля мяне быў у яго настаўнік Ціхан Хрэннікаў. Ён паспрабаваў сябе рэктарам кансерваторыі. Каторы год ужо ўзначальвае наш Саюз. Таленавіты чалавек! Будзённыя клопаты — не для яго. Бог узнагародзіў Лучанка меладызмам і энергіяй, высокай душой, усё гэта трэба скіраваць на творчасць. Тады будуць новыя поспехі. І не толькі ў жанры песні, а і ў іншых музычных жанрах. Гэта — галоўнае!

**— Хто вашы сябры ў жыцці?**

— З Купалам і Коласам сябравалі. З Данілам Коласам, Танкам... Нікога не падвёў.

**— А можна было?**

— Яшчэ як, асабліва ў гады рэпрэсій. Тры ночы выклікалі мяне ў пэўныя інстанцыі. Загадвалі: «Падпішы спіс на арышт кампазітараў». Я ж старшыня Саюза, патрабавалася мая фармальная санкцыя. Не падпісаў. Маё сумленне чыстае. З ім сустракаю свой юбілей...

**— А вам паказвалі той спіс «ворагаў», вы чыталі яго?**

— Ды яго зачытаў Панамарэнка на пленуме ЦэКа. Там былі Купала, Колас, Лынькоў. Я стаяў пад нумарам «дзевятнаццаць». З гэтым спісам Панамарэнка ездзіў да Сталіна. Той быў у добрым настроі і сказаў: «Давайце, таварыш Панамарэнка, замест ордэраў выдадзім ордэны. Тады шэсць пісьменнікаў атрымалі высокія ўрадавыя ўзнагароды — Купала, Колас, Лынькоў, Бядуля, Глебка, Броўка. З кампазітараў нікому не далі...

**— А што нашчадкі захаваюць у памяць з багатай спадчыны кампазітара Анатоля Багатырова?**

— Цяжка сказаць. Думаю, нашчадкаў зацікавяць мае рамансы. Яны ўжо цяпер гучаць у Амерыцы, асабліва на словы Шэкспіра і Ахматавай — «Проснись, любовь», «Любовь — мой грех», «Как разлучил апрель», «Я окошко не завесила...» Ёсць, на мой погляд, добрыя рамансы і на словы Коласа, Купалы, Багдановіча, Куляшова, Танка, Пушкіна. Іх павінны ацаніць слухачы.

**— Анатоль Васільевіч, у вас багата рамансаў пра каханне. Ці сустрэлі яго ў сваім жыцці?**

— О, каханне — салодкі грэх. Я шчаслівы, бо жаніўся па каханню. Маёй выбранніцай стала вядомая спявачка Наталля Сяргееўна Зубковіч, дачка святара з Глуска. Мы з ёй пражылі ў каханні трыццаць чатыры гады. Цудоўная жанчына! З ёй былі на васьмі сталінскіх прыёмах. Разумная. Абаяльная. Божа мой, ад яе ўсе трацілі розум, а яна шчодра дарыла каханне мне. Таму і атрымаўся кампазітар Багатыроў. Без кахання цяжка кампазітару, без яго, думаю, ён не можа рэалізаваць свае здольнасці.

**— Я ведаю, Анатоль Васільевіч, што вы цяпер жывяце адзін. Як пераадольваеце адзіноту?**

— На жаль, мая любая жонка памерла. Другі дзесятак гадоў жыву адзін. Мы гадавалі прыёмную дачку. Ёсць ужо ўнукі. Падтрымліваем адзін аднаго... А калі шчыра, я люблю адзіноту. Веру ў Бога з дзяцінства. У душы веру. Па цэрквах не хаджу, толькі калі бываю ў Маскве ці за мяжой. Музыка дапамагае ў адзіноце. Пішу ўспаміны. А да таго я не хачу змірыцца, што атрымліваю пенсію. Маю поўную педагагічную стаўку ў Акадэміі музыкі.

**— Што скажа прафесар Багатыроў пра сённяшнюю творчую моладзь?**

— Нядаўна быў на экзаменах у кансерваторыі. Мяне здзівіла і абурыла: у студэнтаў няма нічога беларускага, нацыянальнага. Трэба больш займацца фальклорам, клапаціцца пра чысціню сваіх вытокаў, цаніць гісторыю краіны і традыцыі свайго народа. У гэтым — жыццё і поспех інтэлігенцыі.

**— А што б пажадалі ўсім беларусам з вышыні сваіх гадоў?**

— Каб любілі сябе. І каб ніколі не забываліся, што яны — беларусы і маюць сваю краіну. Жыццё — адзін міг. І трэба, як вучыў Хрыстос, Чалавек-Бог, нікому не рабіць зла, быць сумленным і добрым...

*... За акном барабаніў спорны летні дождж. Не хацелася развітвацца з чалавекам-легендай, не хацелася абрываць размову з патрыярхам музыкі, у якога такая маладая душа. Пілі каву, доўга яшчэ абмяркоўвалі складаную, супярэчлівую рэчаіснасць. А. Багатыроў згадваў розныя гісторыі з жыцця Брамса, Шумана, Ліста, Шапэна, Жорж Санд. Паставіў сваю кропку ў размове, як запавет:*

— Трэба сумленна жыць і даражыць кожным днём жыцця!

**Уладзімір ЛІПСКІ.**

## ЗЛАЧЫНЦАМ У БЕЛАРУСІ ЎЖО ВЫНОСІЦЦА НОВЫ ПРЫГАВОР — ПАЖЫЦЦЁВАЕ ЗНЯВОЛЕННЕ

**Па найбольш цяжкіх злачынствах беларускія суды з некаторага часу ўжо выносяць новы прыгавор — пажыццёвае зняволенне. Гэтая норма была заканадаўча ўведзена ў Крымінальны кодэкс рэспублікі на пачатку гэтага года як альтэрнатыва пакаранню смерцю.**

Як паведамілі журналістам у Пракуратуры Беларусі, у прыватнасці, у Вярхоўным судзе ў касацыйнай інстанцыі не так даўно была разгледжана справа ў дачыненні да грамадзяніна, які ўчыніў забойства пры абцяжваючых абставінах і быў прыгавораны да пажыццёвага зняволення. Вярхоўны суд пакінуў без змянення вынесены прыгавор.

Па словах намесніка Генеральнага пракурора Беларусі Аляксандра Іваноўскага, праблем з адбыццём пакарання гэтай катэгорыяй асоб пакуль не ўзнікае.

Так, у адпаведнасці з вынесеным прыгаворам вышэйузгаданаму грамадзяніну першыя пяць гадоў пажыццёвага зняволення прызначана адбываць у турме.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## У ВЫТВОРЧАСЦІ СЛЕДЧАГА КАМІТЭТА МУС І ОРГАНАЎ ПРАКУРАТУРЫ ЗНАХОДЗІЦЦА ШЭРАГ СПРАЎ АБ ЗЛАЧЫНСТВАХ У БАНКАЎСКАЙ СФЕРЫ

**Сёння падраздзяленнямі Пракуратуры Беларусі і следчым камітэтам Міністэрства ўнутраных спраў расследуецца шэраг крымінальных спраў аб злачынствах у банкаўскай сферы і атрыманні крэдытаў.**

Так, па словах намесніка Генеральнага пракурора рэспублікі Пятра Іваненкі, на пасяджэнні калегіі Пракуратуры Беларусі, якое адбудзецца ў канцы гэтага тыдня, плануецца разгледзець пытанне аб незаконным атрыманні вялікіх крэдытных рэсурсаў у «Беларусбанку». У вытворчасці органаў пракуратуры і следчага камітэта МУС, паведаміў П. Іваненка, знаходзяцца таксама справы, якія датычаць банка «Еўрапейскі», Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь, «Аграпрамбанка», у прыватнасці, яго мінскага ўпраўлення. Там кіраўнікі нейкай фірмы «Максім», якія цяпер знаходзяцца ў вышуку, атрымалі ў былога кіраўніка Саматохіна крэдыты ў памеры 4 мільёнаў долараў ЗША і 5,5 мільёна нямецкіх марак. Саматохін і яго саўдзельнік узяты пад варту.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## 12 ЖНІЎНЯ Ў ПАШТОВЫ АБАРОТ КРАІНЫ ЎВОДЗЯЦЦА НОВЫЯ МАРКІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ 50-ГОДДЗЮ БЕЛАРУСКАГА АЎТАМАБІЛЬНАГА ЗАВОДА

**12 жніўня ў паштовы абарот краіны ўводзяцца новыя маркі, прысвечаныя 50-годдзю Беларускага аўтамабільнага завода.**

Як паведамілі БелаПАН у выдавецкім цэнтры «Марка» рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання «Белпошта» Міністэрства сувязі Беларусі, у серыі з пяці марак наміналам ад 1500 да 8600 рублёў — выявы некаторых мадэляў вялікагрузных кар'ерных самазвалаў і франтальнага пагрузчыка, выпушчаных заводам у розныя гады. Аўтар філатэлістычнай прадукцыі - - мінскі мастак Георгій Доўбік.

12 жніўня ў Жодзіна будзе адбылося спецыяльнае гашэнне на канвертах «першага дня».

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## З'ЕЗД СТАЎ ІМПУЛЬСАМ СУДОВАЙ РЭФОРМЫ

**«Нягледзячы на тое, што судовая рэформа ў краіне пачалася яшчэ ў 1992 годзе, за апошнія шэсць месяцаў удалося зрабіць больш, чым за папярэднія пяць гадоў, — заявіў учора на прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры старшыня Вярхоўнага суда Беларусі Валянцін Сукала. — І адбылося гэта дзякуючы станоўчаму ўплыву рэспубліканскага з'езда суддзяў. Таму памыляліся тыя, хто лічыў, што ён будзе звычайным дзяжурным мерапрыемствам».**

Паводле слоў В. Сукалы, значна пашырылася сістэма аднаасобнага разгляду суддзямі адміністратыўных і крымінальных спраў. Напрыклад, зараз цалкам аднаасобна разглядаюцца грамадзянскія і адміністратыўныя іскі, а крымінальныя — на 60 працэнтаў. Нават створаны новы інстытут — суддзяў па адміністратыўных справах, якіх налічваецца ў краіне ўжо больш за 100 чалавек. Такім чынам, інстытуту прысяжных засядацеляў, які спрабавалі ўвесці ў краіне некалькі гадоў таму, верагодна, не наканавана з'явіцца ў беларускай судовай сістэме. Гэта пацвердзіў і суддзя Вярхоўнага суда, кіраўнік Рэспубліканскага Савета суддзяў Іван Мінец.

Валянцін Сукала паведаміў, што згодна з зацверджанай праграмай будаўніцтва і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, у Беларусі на сённяшні момант узводзіцца 12 новых будынкаў судоў. А да 2005 года плануецца здаць яшчэ 45 дамоў правасуддзя.

У першым паўгоддзі спраў, па якіх не ўдалося захаваць тэрміны разгляду, стала заўважна менш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Словам, валакіта, магчыма, можа стаць перажыткам мінулага.

Толькі 14 супрацоўнікаў былі прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці і 113 дэпрэміраваны ў першым паўгоддзі. В. Сукала з задавальненнем паведаміў, што не было зарэгістравана ніводнага злачынства сярод супрацоўнікаў яго ведамства.

Павысілася і якасць разгляду спраў судамі першай інстанцыі. У іх рабоце выяўляецца менш за 2 працэнты браку. «Хаця па гэтай прычыне мы зусім не заспакойваем сябе, паколькі кожны няправільны прыгавор — трагедыя для чалавека», — заўважыў страшыня Вярхоўнага суда. Неабгрунтавана асуджаных сёлета было выяўлена 26 чалавек. Усе яны правялі розныя тэрміны за кратамі. Адзін нават адсядзеў 2 гады.

На заканчэнне Валянцін Сукала падзякаваў журналістам за тое, што прэса дапамагае выяўляць існуючыя хібы ў працы судовых інстанцый і запэўніў, што ніводная публікацыя, незалежна ад таго, у якіх СМІ яна друкуецца, не застаецца без рэагавання ў Вярхоўным судзе.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## У Мінску ствараецца новая грамадская арганізацыя — Саюз інвестараў

**У Мінску ствараецца новая грамадская арганізацыя, якая аб'ядне ўсіх прадстаўнікоў кампаній з замежнымі інвестыцыямі ў Рэспубліцы Беларусь, — Саюз інвестараў.**

Цяпер рыхтуюцца неабходныя дакументы для рэгістрацыі арганізацыі ў Міністэрстве юстыцыі. Не так даўно на сходзе прадстаўнікоў сумесных і замежных прадпрыемстваў быў прыняты статут Саюза інвестараў. Актыўны ўдзел у абмеркаванні дакументаў арганізацыі прымаюць і прадстаўнікі МЗЭС — міністэрства, напрамую зацікаўленага ў прытоку замежных інвестыцый у Беларусь.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## У Гомелі працягваецца працэс спецыялізацыі сярэдніх школ

**Так, рашэннем гарвыканкама гомельская СШ № 8 набыла статус школы пры Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны.**

У ёй будуць створаны профільныя класы накшталт універсітэцкіх факультэтаў. На конкурснай аснове ў школу будуць прымацца не толькі навучэнцы, але і педагогі з ліку як школьных, так і выкладчыкаў ВНУ. Гэта другая ў горадзе школа, якая ажыццяўляе такі праект. Піянерам стала СШ № 56, дзе эксперымент паспяхова вядзецца ўжо на працягу сямі гадоў. Навучэнцы СШ № 58 з новага навучальнага года будуць паглыблена вывучаць англійскую мову, а таксама ўзмоцнена займацца музычнахаравым і выяўленчым мастацтвам. Па індывідуальнай спецыялізацыі ў Гомелі працуе прыкладна чвэрць з 60 гарадскіх школ.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

### НАДЗЁННАЕ

## ШКОЛЬНІКІ ТАКСАМА ЛЮБЯЦЬ МОДНАЕ АДЗЕННЕ

**Набыццё мінімальнага набору адзення для дзяўчынак сярэдняга школьнага ўзросту, у склад якога ўваходзяць сукенка ці камплект, блуза, джэмпер, туфлі, калготкі і спартыўны касцюм з бавоўны, абыдзецца іх бацькам сёлета прыкладна ў 2,5 мільёна беларускіх рублёў. А на тое, каб апрануць у школу хлопчыка, бацькам прыйдзецца выкласці 2,7-2,8 мільёна. Калі ж дадаць да гэтай сумы яшчэ і кошт неабходных для вучобы канцтавараў, то школьная «карзінка» пацягне ўвогуле на ўсе 3,5 мільёна. Гэтыя лічбы на прэс-канферэнцыі, прысвечанай праблеме забеспячэння гандлю школьным адзеннем, былі агучаны прадстаўнікамі Міністэрства гандлю.**

Трэба заўважыць, што заказ Міністэрства гандлю канцэрну «Беллегпрам» на школьнае адзенне ў 143,6 тысячы адзінак на фоне агульнай колькасці ў нашай рэспубліцы школьнікаў (1,7 мільёна) выглядае даволі сціпла. Але яго выкананне ўсё ж выклікае ў вытворцаў пэўныя праблемы. І першая з іх — вельмі сціснутыя для гэтага тэрміны. На думку кіраўнікоў буйнейшых беларускіх прадпрыемстваў, якія займаюцца выпускам асартыменту для школы, неабходна вярнуцца да сезоннага накаплення школьных тавараў: першыя партыі павінны закупляцца гандлёвымі арганізацыямі ў вытворцаў яшчэ ў красавіку, тады як сёлета канчатковая заяўка гандлю была сфарміравана толькі ў чэрвені. І хаця па стану на 10 жніўня 80—90 працэнтаў неабходных тавараў ужо паступілі ў продаж (а да 27 жніўня, як абяцае Міністэрства гандлю, заяўка будзе задаволена на ўсе 100 працэнтаў), такія «пажарныя» тэмпы вытворцаў не задавальняюць. Другая праблема — адсутнасць беларускіх тканін сучасных расфарбовак. І трэцяя праблема — неабходнасць пастаяннага вывучэння густаў і попыту моладзі. Роспач вытворцаў можна зразумець, калі іх прадукцыя нечакана «завісае» ў гандлі. Таму сёлета ўпершыню ў Мінску праводзілася маладзёжная забаўляльная праграма «Школьная пара і мода» з дэманстрацыяй новых распрацаваных мадэляў школьнага адзення. Ацэнку яму давала самае строгае журы — самі школьнікі, якіх сёння ніхто не прымусіць насіць тое, што ім не падабаецца. Як заўважыла дырэктар Брэсцкай швейнай фабрыкі «Надзея», школьны асартымент быў зменены ў іх у гэтым годзе на 83 працэнты.

На 100 працэнтаў змяняецца штогод дзіцячы асартымент і на абутковых прадпрыемствах краіны. Вось толькі добры дзіцячы абутак па-ранейшаму не толькі ў дэфіцыце, але і ў вялікай цане: зараз кошт аднае пары вагаецца ад 300 тысяч рублёў да мільёна. Адсутнічаюць у продажы і вялікія памеры школьнага абутку для дзяўчынак (37, 38 і г. д.), у выніку чаго бацькі вымушаны купляць падлеткам «дарослыя» туфлі і чаравікі па, адпаведна, «дарослых» цэнах. Нельга абысці і той факт, што на сучасны момант заяўкі гандлю на дзявочыя туфелькі задаволены ўсяго на 27 працэнтаў і мала верагодна, што да 1 верасня іх дэфіцыт будзе ліквідаваны.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**


Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# КАЛІ ЗАКАЦІЛАСЯ СОНЦА

ГАННА ЖЫВЕ ў нашым доме, на пятым паверсе. Бачымся мы з ёй кожную раніцу: яна адпраўляе ў школу свайго Максіма, танклявага чатырнаццацігадовага хлопца, які з твару вельмі на яе падобны. Максім ужо імчыць па прыступках недзе на другім паверсе, а яна, выйшаўшы на пляцоўку, крычыць яму ўслед, каб не бегаў без курткі на перапынках. Часам мы сустракаемся на тралейбусным прыпынку і разам едзем да метро: Ганна выкладае рускую мову і літаратуру ў адным з тэхнікумаў. Ганне гадоў трыццаць шэсць, хаця выглядае значна маладзейшай: заўсёды акуратна прычасаныя валасы, стыльная прыгожая вопратка. А яшчэ — і ў гэтым, пэўна, увесь сакрэт яе маладосці — вочы. Зялёныя з маленькімі карычневымі іскрынкамі, яны ўмомант становяцца залатымі, калі іх уладальніца пачынае смяяцца. Смяецца яна часта, залівіста, ад душы, як малая дзяўчынка, хаця смяяцца, як лічаць нашы «пад'ездныя» бабулі, асабліва няма чаго: маладая, прыгожая, адукаваная, а вось, бачыш, як, беднай, не пашанцавала — выхоўвае свайго Максіма адна. Пра мужа Ганны ніхто нічога дакладна не ведае. Адны гавораць, што загінуў ён адразу пасля нараджэння сына і яна дагэтуль не можа яго забыць. Іншыя кажуць, што быў ён дужа залётны да жанчын і Ганна сама яго кінула. А некаторыя асабліва з'едлівыя кабеты пад вялікім сакрэтам раскажуць вам, што ніякага мужа ў Ганны і не было, што прыехала яна ў горад з дзіцем, бо бацькі з вёскі выгналі, каб не было ганьбы перад людзьмі, каб не мазолілі вочы распусная дачка ды незаконны ўнук. Ганна, вядома ж, пра ўсе гэтыя «версіі» ведае, але пераконваць пад'ездную грамадскасць у правільнасці адной з іх і памылковасці іншых не спяшаецца. Таму апошнія шэсць гадоў, з таго часу, як пасялілася ў нашай «хрушчоўцы», трымае яна за сабой тытул самай загадкавай жанчыны пад'езда.

Нядаўна Ганна зайшла да мяне, папрасіла дапамагчы перасунуць з месца на месца цяжкаватую-такі шафку. Неяк мітуслівa-прысаромлена тлумачыла пры гэтым, што надумала самастойна зрабіць рамонт, і толькі ўзяўшыся, зразумела, якая гэта для адной жанчыны цяжкая справа. Ды яшчэ і адзінага памочніка, Максіма, на канікулы да бабулі адправіла... Шафку мы тузалі даволі доўга, спрабуючы скрануць яе з месца. Калі ж, нарэшце, гэта ўдалося, дзверцы раптам адчыніліся і на падлогу пасыпаліся альбомы, фотаздымкі, сшыткі (вось чаму невялікая з выгляду шафка была такая цяжкая). Ганна пачала хуценька збіраць рассыпанае, а я ва ўсе вочы глядзела на фота, якое адляцела ўбок. На ім былі маладыя. Ганна, зусім юная, у зграбным капялюшыку і белым воблаку вэлюма, а побач — вельмі прыгожы, інтэлігентнага выгляду малады чалавек, які асцярожна трымаў яе пад локаць. Я падняла фота, і толькі тады Ганна яго заўважыла. «А, ну вось, пазнаёмся. Аляксей, мой былы муж. Былы бацька Максіма. Былы паэт...» Сказала з сумам і іроніяй, але без шкадавання... Потым, пакапаўшыся ў паперах, якія ўсё яшчэ ляжалі на падлозе, выцягнула адтуль агульны сшытак у рудой цыратовай вокладцы, падала яго мне.

У сшытку былі вершы. Вельмі добрыя вершы, напісаныя па-беларуску. Непасрэдныя, лірычныя, непадобныя адзін на другі і на іншыя. Асабліва запомніўся адзін, які пачынаўся так:

*У мяне было вялізнае сонца,*
*Я хацеў падарыць яго табе,*
*Але ты смяялася і казала:*
*Навошта яно мне, такое вялікае?*
*У маім небе была безліч зор,*
*Я хацеў, каб яны былі тваімі.*
*Але ты ўсміхалася і казала:*
*Навошта мне яны, калі я*
*Бачу зоры ў тваіх вачах?..*

А потым мы сядзелі на адрамантаванай ужо кухні, пілі каву і я, слухаючы гісторыю дзівацкага, незразумелага кахання, думала аб тым, што, каб не вершы і фота, ніколі б у яе не паверыла...

Яны сустрэліся самай лютай зімой. Ганне тады было няпоўных васемнаццаць. Яна прыехала ў Мінск з вёскі, паступіла вучыцца ў «хабзу» на кранаўшчыцу. Не тое што спала і марыла аб гэтай прафесіі, але ж трэба было недзе дзецца пасля школы. Аб інстытуце ці нават тэхнікуме і не думала: не было за кім вучыцца ў школе — з заняткаў адразу на ферму маці дапамагаць, а вечарам як паганяе п'яны бацька, ды як пераначуеш у адрыне або ў суседзяў — ці да вучобы тады назаўтра... Яна стаяла на аўтобусным прыпынку і хукала на задубелыя рукі — забылася рукавіцы. Раптам нехта высокі і прыгожы, а ёй, вясковаму дзяўчаняці, ён наогул здаўся паўбогам, падышоў і працягнуў ёй скураныя пальчаткі...

Аляксею было тады дваццаць пяць. Ён заканчваў універсітэт, меў аднапакаёўку, што засталася ад бабулі, і бліскучыя перспектывы на будучыню. Ніхто з яго знаёмых доўга не мог зразумець, што ён знайшоў у гэтай «дзярэўні», якую ўсюды вадзіў з сабою і нават дыхаць, здавалася, на яе баяўся. Маці ягоная нават у вучылішча да Ганны ездзіла, увяла ўсім у вушы, што дзяўчына яе беднага хлопчыка зусім акруціла і хоча на сабе жаніць, бо ў яго і кватэра, і прапіска, і грошы...

А Ганна проста хадзіла ашаломленая шчасцем, якое на яе абрынулася. Ён прыносіў ёй вялізныя букеты руж, у якіх яна знаходзіла запіскі на французскай мове, якую вучыла калісьці ў школе, але з якой, як ні старалася, не магла ўспомніць ні слова. Ён пісаў ёй вершы амаль штодня, але яе часам пужалі яго незразумелыя, дзіўныя метафары ў гэтых вершах. Яны хадзілі сустракаць туманны ружова-блакітны ранак, і ён з захапленнем казаў ёй: «Зусім як у Манэ, праўда?» Яна згодна ківала, а шчокі залівала чырвань ад таго, што яна не ведала, хто ён, той Манэ — мастак, пісьменнік ці яшчэ хто. Калі аднойчы яна, ужо працуючы кранаўшчыцай на заводзе, паехала на месяц у адпачынак, Аляксей закідаў яе пісьмамі, молячы напісаць хоць радок. І не атрымаў ніводнага адказу: яна проста баялася нарабіць памылак...

Яна ведала толькі адно: без яго яна жыць не зможа. Ён ведаў тое самае. І яны палічылі, што гэтага дастаткова. І праз два гады пажаніліся, нягледзячы на пратэсты бацькоў (маці Ганны таксама ўвесь час дачку пілiла: занадта разумным і інтэлігентным здаваўся ёй зяць).

Іх ідылістычнае шчасце было нядоўгім. Усё часцей яны лавілі сябе на тым, што гаварыць ім няма аб чым. Аляксей паступіў у аспірантуру, Ганна з кранаўшчыцы перавялася на «чысцейшую» работу — стала вахцёрам на прахадной завода. Калі ў госці прыходзілі яго сябры, яна выконвала ролю маўклівай кухаркі, якая толькі падавала на стол. Калі ж аднойчы заглянулі яе дзяўчаты, з якімі разам вучыліся, ён адразу выйшаў, а, вярнуўшыся, сказаў з пагардай: аб чым можна гаварыць з такімі дурніцамі?..

Але ўсё ж было каханне, і яны ратавалі яго, як маглі, кожны па-свойму. Ганна думала, што сваёй пяшчотай, утульнасцю ў доме яна прымусіць яго забыцца аб бездані паміж імі. Аляксей незаўважна падсоўваў ёй кніжкі, каб чытала на прахадной, а аднойчы загаварыў пра тое, што можна б за год падрыхтавацца і паступіць куды-небудзь. Не век жа ў вахцёрках сядзець. Але тут у ёй прачнулася дзікая ўпартасць: значыць, табе мала майго кахання, ты не можаш мяне любіць такую? А я вось такая як ёсць, і мяняцца не хачу і не буду!

Усё часцей яны маўчалі па вечарах. Аляксей прападаў за пісьмовым сталом, Ганна злосна бразгала посудам на кухні. І аднойчы ён ціха сказаў: «Ведаеш, ты зусім не такая, якой я цябе прыдумаў». Яна зноў упарта адказала: якая ёсць! Гэта стала пачаткам канца.

Пасля разводу яна паехала да бацькоў. Праз паўгода з'явіўся Максім, і толькі тады яна асэнсавала, што страціла. І рашыла вярнуць не толькі маломy бацьку, але і сабе мужа. Ёй было ўсяго дваццаць два. Маці са здзіўленнем назірала, як дачка чытае школьныя падручнікі і скептычна хмыкала: што ж з гэтага выйдзе. Выйшла — летам Ганна паступіла на філфак. Пайшла вучыцца на дзённае аддзяленне, пакінуўшы малога на бабку. Усе пяць гадоў, што была ў Мінску, ні разу не спакусілася пабачыць Аляксея. Ён не ведаў, што нарадзілася дзіця, і яна хацела зрабіць яму сюрпрыз — падарыць сябе і сына. Яна марыла пра гэту хвіліну ўвесь час — і калі праседжвала ў бібліятэцы, прачытваючы творы звыш праграмы, і калі вучыла французскія словы, якія, падобныя адно да аднаго, не хацелі запамінацца, і калі кожныя выхадныя трэслася ў аўтобусе, едучы да Максіма...

Яна скончыла універсітэт на «выдатна», атрымала прапанову пайсці ў аспірантуру, а калі адмовілася, — месца выкладчыцы ў тэхнікуме і пакой у інтэрнаце. Яна навучылася апранацца і карыстацца сталовым нажом. Максім у пяць гадоў ужо бойка чытаў, расказваў на памяць вершы і лічыў да тысячы. Можна было ехаць да Аляксея...

Яна дагэтуль дзякуе Богу, што паехала без малога. Дзверы адчыніў прапахлы гарэлкай мужык у спартыўным трыко, у якім яна з цяжкасцю пазнала былога мужа. Ён яе таксама не мог пазнаць. Так яны і стаялі, гледзячы адно на аднаго цераз парог калісьці іхняга дома. Потым яна шпарка ішла па вуліцы, а ён подбегам у пантофлях, нязграбна соваючы нагамі, даганяў яе і спрабаваў нешта растлумачыць. Потым, убачыўшы, што яна не слухае, крыкнуў на ўсю вуліцу: «Гэта ты мне жыццё зламала!» Больш яны не бачыліся. Хаця верагоднасць сустрэцца нават у двухмільённым горадзе заўсёды застаецца...

Праз два гады ёй з сынам далі кватэру ў нашым доме. Жыццё ідзе спакойна і наладжана. Для Максіма бацька застаўся прыгажуном з вясельнай фоткі, які раптоўна памёр да яго нараджэння. Калі ён просіць Ганну расказаць яму пра бацьку, яна нічога не выдумвае, проста пачынае ўспамінаць. Пра пяшчотныя французскія словы ў безлічы руж, пра світанкі, як на пейзажах Манэ, чытае сыну вершы са старога агульнага сшытка. І гоніць, гоніць ад сябе зусім нядаўні ўспамін: абдзёртыя шпалеры, пах перагару, зашкляннелыя вочы, лапатанне пра цяжкае жыццё і творчы крызіс... І ўспамін гэты, нарэшце, ідзе прэч, і зноў застаецца толькі ціхі сум і вобраз маладога паўбога, які працягвае ёй пальчаткі, і грэе яе рукі ў сваіх...

«Што, так нікога пасля яго ў вас і не было?» — асцярожна спытала я, выслухаўшы аповяд. «Як жа пасля гэтага, — Ганна кіўнула на сшытак з вершамі, які я трымала ў руках, — можа яшчэ нехта быць?»

Не папракайце мяне, што парушыла вобраз таямнічасці сваёй суседкі. Пішу ўсё з яе згоды, замяніўшы імёны. Наконт астатніх доказаў можна быць спакойнай. Сшытак і фота зноў надзейна схаваныя сярод папераў у шафцы. А наступны рамонт Ганна, адзінокая жанчына, наўрад ці хутка асмеліцца рабіць.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## «СТРАСЦІ» ВАКОЛ ШКОЛЬНЫХ ДЗЁННІКАЎ ПАДСТАЎ НЕ МАЮЦЬ

**Перад новым навучальным годам у бацькоў школьнікаў заўсёды хапае клопатаў: трэба адшукаць у гандлі і школьны ранец, і абутак для школы, і таннае адзенне, акрамя таго адстаяць велізарныя чэргі ў секцыях канцтавараў. Але сёлета да гэтага дабавілася яшчэ адна праблема: неабходнасць набыцця школьнага дзённіка новага ўзору.**

Некаторыя сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што ў 1998—1999 годзе ўсе школы перойдуць на выкарыстанне выключна новых вучнёўскіх дзённікаў. Гэта навіна, трэба заўважыць, выклікала пэўны перапалох у аддаленых ад сталіцы раёнах. Справа ў тым, што калі ў Мінску новы дзённік ужо не з'яўляецца дэфіцытным таварам, то знайсці яго ў многіх райцэнтрах на сённяшні дзень бывае даволі праблематычным — паліграфісты пакуль не задаволілі ў іх патрэбу. За тлумачэннямі на гэты конт мы звярнуліся да спецыялістаў галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі РБ.

— Новы ўзор вучнёўскага дзённіка быў зацверджаны загадам міністра адукацыі ў снежні 1996 года, — паведаміла нам галоўны інспектар упраўлення **Наталля Гаравая.** — Да дзённіка, добра вядомага многім пакаленням выпускнікоў, былі дабаўлены яшчэ некалькі старонак (заўвагі настаўнікаў, расклад факультатыўных заняткаў, заданне на лета), але ўсё ж істотна ён не змяніўся. У мінулым навучальным годзе міністэрствам было дазволена карыстацца ў школах вучнёўскімі «пашпартамі» як новага, так і старога ўзораў. Хаця нам былі вядомы выпадкі, калі кіраўніцтва некаторых школ проста прымушала бацькоў пераходзіць на новыя дзённікі. Прыходзілася праводзіць сярод іх тлумачальную работу. Той жа палітыкі Міністэрства адукацыі збіраецца прытрымлівацца і ў гэтым годзе. Віны бацькоў і іх дзяцей у тым, што яны не могуць яго набыць, няма. Таму мы лічым мэтазгодным захаваць сёлета паралельнае выкарыстанне ў вучэбным працэсе дзённікаў старога і новага ўзору.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.42 | 20.45 | 15.03 |
| Віцебск – | 5.28 | 20.40 | 15.12 |
| Магілёў – | 5.32 | 20.35 | 15.03 |
| Гомель – | 5.36 | 20.25 | 14.49 |
| Гродна – | 6.00 | 20.58 | 14.58 |
| Брэст – | 6.04 | 20.55 | 14.51 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра — 14 жніўня.**

**З 22.33 — 22-ія месяцавыя суткі.**

**З 10.05 Месяц — у сузор'і Цяльца.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Еўдакіма, Юрыя, Іаана К. Панціяна, Дыяны**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць. У заходняй палавіне кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні 3—8, пры навальніцах парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 19—21, Мінску і Гомелі — 20—22, Гродне — 21—23, Брэсце — 23—25 градусаў вышэй нуля. У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 14-га на большай частцы тэрыторыі, 15-га месцамі па рэспубліцы дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы 8—13, удзень 17—22 градусы цяпла.

